www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 62 (4211)

8 жніўня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



**Золатавалютныя рэзервы Беларусі за ліпень павялічыліся на 103,8 мільёна долараў і ў агульнай суме склалі 6 мільярдаў 664,8 мільёна. Каб міжнародныя крэдытары давалі нашай краіне пазыкі на найбольш выгадных умовах, мінімальны ўзровень золатавалютных рэзерваў павінен складаць не менш за 10 мільярдаў долараў.**



БЛІЦ

*Не за гарамі новы навучальны год. Якая мова будзе часцей гучаць у школах, гімназіях, ліцэях – беларуская ці руская? Калі дзяржава падтрымлівае ідэю нацыянальнага адраджэння, то чыноўнікі ад адукацыі абавязаны рабіць усё для таго, каб юнае пакаленне ў першую чаргу авалодвала родным словам. Вось чаму "Народная Воля" вырашыла звярнуцца да кіраўнікоў адукацыйных устаноў і ведамстваў розных узроўняў з пытаннем:*

## Вы агітуеце бацькоў за тое, каб яны аддавалі дзяцей у класы з беларускамоўным навучаннем?

**Валянцін Трубчык, намеснік старшыні Кобрынскага райвыканкама па сацыяльна-культурных пытаннях і ідэалогіі:**

– Адметнай агітацыі мы не вядзём. Бацькі ведаюць, і мы ўвесь час даводзім інфармацыю на сходах, што ў іх ёсць права выбару, якую мову навучання абраць для сваіх дзяцей – беларускую альбо рускую. Будзе жаданне, каб дзеці вучыліся па-беларуску, калі ласка, гэтае іх права будзе здзейснена. Мы гарантуем. Але сёння, на жаль, ні ў адной з 9 школ Кобрына няма беларускамоўных класаў. Такі выбар бацькоў... А на вёсках беларускамоўныя школы працуюць.

Магчыма, працэсу беларусізацыі ў школах будзе спрыяць іншая наша работа: сёння мы імкнёмся больш мерапрыемстваў у раёне праводзіць па-беларуску, назвы вуліц пісаць па-беларуску і г.д. Дзяржаўныя служачыя больш увагі надаюць беларускай мове…

**Вікторыя Амялюсік, начальнік упраўлення адукацыі, спорту і турызму Бабруйскага гарвыканкама:**

– Не зусім разумею сутнасць вашага пытання. Што значыць – мы агітуем ці не агітуем? Будзе попыт – будуць класы. У Бабруйску 33 школы, але, на жаль, пакуль ніводнай заявы ад бацькоў аб тым, каб іх дзіця вучылася па-беларуску, не паступала.

Мы са свайго боку, безумоўна, папулярызуем беларускую мову ў школах, адмысловых мерапрыемстваў праводзіцца дастаткова. Пачынаючы з прадметных тыдняў і заканчваючы беларускамоўнымі тэатрамі, фестывалямі і конкурсамі.

**Таццяна Аксаміт, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Гродзенскага райвыканкама:**

– Усё па жаданні бацькоў... У краіне дзве дзяржаўныя мовы, і, калі ёсць жаданне, мы адкрываем беларускамоўныя класы. Сілай ніхто нікога не агітуе і не запісвае.

Школы ў Гродзенскім раёне ў асноўным рускамоўныя, але ў трох сярэдненадукацыйных установах – Свіслацкай, Коласаўскай і Навасёлкаўскай – навучанне ідзе цалкам па-беларуску. Таксама арганізавана 15 беларускамоўных класаў у іншых школах раёна. У гэтым годзе "всеобуч" пакуль не сфарміраваны, але менш такіх класаў не стане. Ці будзе больш, пакуль адказаць не магу.

**Аляксей ГАРБУЗ, намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама (адказаў праз сакратара):**

– Дасылайце афіцыйны запыт, і мы адкажам на пытанне.

**Юлія Ігнатовіч, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце (пачатковыя класы) СШ №1 г.Магілёва:**

– Вядома ж, мы агітуем бацькоў. Напрыканцы кожнага навучальнага года, у маі, у школе праходзяць сходы для бацькоў будучых першакласнікаў, і мы ў абавязковым парадку гаворым ім пра тое, што ў нашай школе ёсць выдатная магчымасць вучыць дзяцей на роднай мове. Запрашаем бацькоў аддаваць дзетак у такія класы. Тлумачым, што ў школе створаны ўсе ўмовы для навучання па-беларуску: падрыхтаваны настаўнікі пачатковых класаў, у старэйшых класах таксама пры магчымасці навучанне ідзе на беларускай мове. Зараз наша Ялінка Салаўёва, першая беларускамоўная вучаніца Магілёва, перайшла ў 8-ы клас. І ўсе прадметы выкладаюцца для яе на беларускай мове індывідуальна.

У гэтым годзе пакуль толькі адна заява паступіла ад бацькоў на навучанне ў 1-м беларускамоўным класе. Але спадзяёмся, што жадаючыя яшчэ з'явяцца, набор працягваецца. Магчыма, бацькоў спыняе тое, што класы нешматлікія, хаця, з другога боку, у такіх класах у настаўніка ёсць больш часу працаваць з вучнямі індывідуальна.

Дарэчы, магу дадаць, што сёння ў Магілёве беларускамоўныя класы з'явіліся ў 34-й школе, і бацькі ведаюць, што ў горадзе ў двух раёнах – і ў нашым Ленінскім, і ў Кастрычніцкім, ёсць беларускамоўныя класы.

**Алена Скурат, дырэктар беларускамоўнай гімназіі №2 г.Барысава:**

– Па тэлефоне я такую інфармацыю не даю. Дасылайце афіцыйны запыт, я адкажу… Наша гімназія беларускамоўная, у горадзе ведаюць, што тут выкладанне ідзе па-беларуску, гэта астравок беларускасці. Мы нікога не агітуем, гэта жаданне бацькоў і дзяцей…

Але я не даю згоды на інтэрв'ю, бліц, і магу гэта апратэставаць.

**Ніна ЛАЗОЎСКАЯ, дырэктар беларускамоўнай гімназіі №28 г.Мінска:**

– Усё само сабой адбываецца, бацькі нас самі знаходзяць. Гімназія на слыху, таму спецыяльнай агітацыі мы не праводзім. І яшчэ не было года, каб у нас быў недабор, усе паралелі маюць па два класы. Хаця, прызнаюся, конкурсы ў гімназію не надта высокія.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**Ад рэдакцыі**

Дзіўная сітуацыя: у сталічнай гімназіі №28 з беларускамоўным навучаннем "не было года, каб быў недабор" дзяцей, а вось у абласных, раённых цэнтрах з вучнямі, якія вучыліся б на роднай мове, – праблема з праблем. Бацькі не жадаюць? А скажыце, чаму не жадаюць? Ці не пытанне гэта да тых жа ўлад, да тых жа чыноўнікаў, якія кіруюць адукацыяй?

КАДРЫ

## У іх – новыя пасады

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка ўчора даў згоду на прызначэнне:
**Аляксандра Корбута** – намеснікам міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя;
**Аляксандра Бараулі** – намеснікам міністра спорту і турызму;
**Аляксандра Марчанкі** – генеральным дырэктарам ААТ "Барысаўскі завод аўтатрактарнага электраабсталявання" – кампанія-кіраўнік холдынга "Аўтакампаненты";
**Генадзя Азарава** – генеральным дырэктарам ААТ "Віцязь";
**Сяргея Пацкевіча** – генеральным дырэктарам ААТ "Мінскі завод шасцерань";
**Анатоля Марцуля** – генеральным дырэктарам ААТ "МВАВТ";
**Алега Мацкевіча** – першым намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама;
**Івана Кубракова** – членам Віцебскага аблвыканкама;
**Сяргея Клішэвіча** – членам Мінскага гарвыканкама.

ДЫПКУР'ЕР

### Валянцін Рыбакоў – новы пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН

Да гэтага часу ён працаваў намеснікам міністра замежных спраў.
Адбылася ракіроўка. На яго месца прызначаны **Андрэй Дапкюнас**, які якраз і быў нашым прадстаўніком пры ААН.

АБНАЎЛЕННЕ

### У сямі раёнах новыя кіраўнікі

Учора ў Аляксандр Лукашэнка ўзгадніў прызначэнні старшыняў шэрагу райвыканкамаў.
Кіраўнік дзяржавы даў згоду на прызначэнне **Аляксандра Пазняка** старшынёй Аршанскага райвыканкама. Да гэтага ён быў памочнікам прэзідэнта – інспектарам па Віцебскай вобласці.
**Алег Паскробка**, які раней працаваў першым намеснікам міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі, узначаліў Салігорскі райвыканкам.
Таксама ўзгоднены прызначэнні
**Уладзіміра Бялова** – старшынёй Ганцавіцкага райвыканкама,
**Аляксандра Дарашэнкі** – старшынёй Драгічынскага райвыканкама,
**Андрэя Булаўкіна** – старшынёй Бешанковіцкага райвыканкама,
**Паўла Налівайкі** – старшынёй Асіповіцкага райвыканкама,
**Дзмітрыя Рубана** – старшынёй Хоцімскага райвыканкама.

ЗАКУЛІССЕ

### Справа Рымашэўскага расследуецца

Як вядома, былога старшыню Салігорскага райвыканкама Аляксандра Рымашэўскага, які дзесяць гадоў кіраваў раёнам, напрыканцы мая гэтага года затрымалі праваахоўнікі. Затрыманне было падобным на сюжэт з дэтэктыўнага серыяла. Рымашэўскага схапілі на дарозе каля вёскі Камень Капыльскага раёна, калі ён атрымліваў хабар – 2,7 тысячы долараў. Паводле дадзеных аператыўнікаў, старшыня Салігорскага райвыканкама на працягу доўгага часу злоўжываў уладай і службовымі паўнамоцтвамі пры вырашэнні пытанняў па закупцы сродкаў аховы раслін, насення і запасных частак для сельгастэхнікі аграпрамысловых прадпрыемстваў і арганізацый Салігорскага раёна.

Рымашэўскага адразу ж арыштавалі, а СК узбудзіў крымінальную справу па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.430 КК – атрыманне хабару асобай, якая займае адказную пасаду. Пазней вакол гэтага затрымання папаўзлі жудасныя чуткі, што быццам бы Рымашэўскі спрабаваў у ізалятары звесці рахункі з жыццём. Але гэтая інфармацыя не спраўдзілася.

На якой стадыі зараз знаходзіцца справа Аляксандра Рымашэўскага?

– *Расследаванне крымінальнай справы працягваецца*, – паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю цэнтральнага апарату Следчага камітэта РБ **Сяргей КАБАКОВІЧ**. – *Мера стрымання не змянілася.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

### Анатоль Капскі больш не гендырэктар ААТ «БАТЭ»



12 гадоў узначальваў ён вядомае ў краіне прадпрыемства, а ўсяго аддаў яму 16 гадоў жыцця.

Узрост (51 год) дазваляў і далей кіраваць холдынгам, у які цяпер уваходзяць 13 прамысловых прадпрыемстваў. На жаль, узніклі праблемы са здароўем. І А.Капскі саступіў пасаду генеральнага дырэктара ААТ "БАТЭ" Аляксандру Марчанку, які да гэтага быў на прадпрыемстве дырэктарам па прамыслова-тэхналагічнай палітыцы і развіцці.

ВІНШУЕМ!

### Вось гэта ўраджайнасць!

*Многія ў Еўропе і Амерыцы могуць пазайздросціць.*



96 цэнтнераў збожжа намалочваюць у сярэднім з гектара камбайнеры СВК "Свіслач" Гродзенскага раёна.

Крыху менш – па 92,1 цэнтнера – збіраюць у СВК "Прагрэс Верцялішкі" гэтага ж раёна.

Можаце ўявіць, які валавы намалот быў бы па краіне, калі б такімі рэкорднымі лічбамі маглі пахваліцца ўсе беларускія хлебаробы!

**Зінаіда ПУХАЛЬСКАЯ.**

НАДВОР'Е

### Спёка вяртаецца...

У другой палове тыдня сіноптыкі прагназуюць гарачае надвор'е з моцнымі дажджамі і навальніцамі, паведаміў начальнік службы метэаралагічных прагнозаў Белгідрамета **Дзмітрый Рабаў**.

Ужо сёння днём будзе да +22…+28°С. У сераду 9 жніўня пераважна без ападкаў, днём +23…+29°С, па Брэсцкай вобласці ў асобных раёнах да +30°С.

*"Далей усталюющца паўднёвыя вятры, і ў Беларусь пачнуць паступаць больш цёплыя паветраныя масы з паўднёвых шырот, тэмпература пачне паступова павышацца"*, – адзначыў сіноптык.

У чацвер, пятніцу і суботу прагназуецца да +34°С, кароткачасовыя дажджы, навальніцы.

СТОЛІЦА

### Планы снова меняются?..

Работы на двух наиболее резонансных строительных объектах Минска – гостинице у цирка и многофункциональном комплексе «Газпром центр» – до конца года должны активизироваться, заявил министр архитектуры и строительства **Анатолий Черный**.

Что касается комплекса «Газпром Центр», из-за которого был снесен Московский автовокзал, министр уточнил: *«Газпром» возвращается: рассматривает проектную документацию и решения. Возможно, будет удешевление и уменьшение глобальности этого проекта, но тоже в этом году они должны выйти на площадку, разобраться с генподрядчиком. Гарантируют, что это все оживет».*

ПАДЗЕЯ

### Сустрэча з «Крамбамбуляй» праз дзевяць гадоў

Так, столькі часу прайшло з таго дня, калі папулярны ў моладзі ансамбль "Крамбамбуля" ў апошні раз выступаў у Мінску. І вось у мінулую суботу паслухаць яго песні сабраліся тысячы прыхільнікаў. Канцэрт адбыўся на пляцоўцы ля стадыёна "Трактар".





